Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

25 ВЕРАСНЯ – 1 КАСТРЫЧНІКА 1998 ГОДА
№39 (179)
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ

АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

## Не хлебам адзіным

Акрамя сваёй галоўнай накіраванасці – выпуску хлеба, на мясцовым хлебазаводзе маюць немалыя грошы ад гандлю. Завод з'яўляецца ўласнікам пяці крамаў у горадзе, але на дасягнутым не спыняецца.

Нядаўна па вуліцы Юбілейнай быў адкрыты новы магазін "Світанак", дзе гандлююць не толькі ўласнай прадукцыяй, але і кавай, малаком, кілбасамі. Штодня з магазіна маюць каля 20 мільёнаў рублёў выручкі. У планах адкрыццё яшчэ адной крамы – праўда, сумесна з малаказаводам – на вуліцы Якуба Коласа. Яна будзе мець назву "Каравай", а для пакупнікоў дзверы адчыніць ужо ў кастрычніку.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## "Космас" у палёце

Прадуктовы магазін №29 "Космас" зноў становіцца дзяржаўным.

Апошнім часам яго арандавала ЗАТ "Фенікс–Гандаль". Будынак перададзены дзяржпрадпрыемству "Стары Замак".

*Аддзел інфармацыі.*

АШМЯНЫ

## Аўтобус і 22 тоны спагеці ў падарунак

У трэці раз за непрацяглы тэрмін горад наведала група з 18 італьянцаў, якія прадстаўляюць арганізацыю "Сябры Ашмянаў з Мантовы".

Як і ў папярэднія разы, італьянцы прыехалі не з пустымі рукамі. У падарунак і на памяць пра іхні вiзіт яны прывезлі аўтобус і 22 тоны італьянскай макароны. Кіраўнік групы **Лаўра Гоцы** перадаў іх для школы–інтэрната.

У сваю чаргу, ашмянцы пазнаёмілі гасцей з шэрагам прадпрыемстваў, СШ №1, ДП "Консул–2", якое займаецца дрэваапрацоўкай, Лаўра Гоцы зацікавіўся ўсур'ёз і, магчыма, у хуткім часе будзе наладжаная сумесная вытворчасць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МІНСК-ВІЛЕЙКА

## Замежжа дапамагае

Шведскі Цэтр па лячэнні дзіцячага параліча правёў семінар. Дарослых вучылі догляду за хворымі дзецьмі. З Вілейкі на вучобе была старшыня асацыяцыі дзяцей–інвалідаў "Светлы шлях" **Галіна Лазарава**.

А 900 марак, якія немцы перадалі вілейскаму ж аддзяленню дзіцячага фонду, былі размеркаваныя паміж 75 малазабяспечанымі сем'ямі, дзе выхоўваюцца непаўналетнія дзеці.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Шанц паступіць

У 25 школьнікаў з эканамічнага класа СШ №1 ёсць вельмі добрыя шанцы паступіць у Беларускі эканамічны ўніверсітэт.

Дагавор, заключаны з ВНУ, натуральна, не гарантуе 100–працэнтнага паступлення, але прадугледжвае заняткі і кансультацыі з выкладчыкамі ўніверсітэта.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

АСТРАВЕЦ

## Без сувязі з іншымі гарадамі

Апынуліся ў такім становішчы жыхары райцэнтра і раёна ў мінулы панядзелак.

Падобнае адбылося з–за пашкоджанага тэлефоннага кабеля непадалёку ад Ліды, і таму сувязісты займаліся рамонтам лініі, а ўладальнікі тэлефонаў былі без сувязі з іншымі гарадамі. Акрамя астраўчан, такі лёс напаткаў і ашмянцаў са смаргонцамі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Поўныя паліцы сушак

Пасля рэканструкцыі адной з ліній, якая абышлася хлебазаводу ў невялікую суму (каля 100 мільёнаў рублёў, бо рабілі "пераўзбраенне" ўласнымі сіламі), тут пачалі выпрацоўваць многімі любімыя сушкі.

Выпрацаваных 9 тон хапае не толькі ў горадзе, але і ў суседніх райцэнтрах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МІНСК

## У Беларусі чакаецца чарговае павышэнне цэнаў на нафтапрадукты

Бліжэйшым часам у Беларусі будуць павышаны рознічныя цэны на нафтапрадукты. Аб гэтым БелаПАН паведаміла крыніца ў дзяржаўным канцэрне "Белнафтахім". Па яе словах, адпаведныя прапановы знаходзяцца цяпер на разглядзе ва ўрадзе рэспублікі і хутка будуць зацверджаныя.

Плануецца, што цана на аўтабензін А-76 пры рэалізацыі на аўтазаправачных станцыях узрасце на 10 працэнтаў, АІ-92 - на 15 працэнтаў, АІ-95 і дызельнае паліва - на 20 працэнтаў. Пры гэтым аптовыя цэны на нафтапрадукты для прадпрыемстваў і гаспадарак рэспублікі маркуецца пакінуць на ранейшым узроўні.

*Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.*

СЕСІЯ

# Мільярд у месяц – цана маладзечанскага футбола

*Сесія гарадскога савета прагаласавала за далейшую падтрымку футбольнага клуба «Маладзечна»*

На чарговай сесіі гарадского Савета дэпутатаў, якая адбылася ў аўторак, з інфармацыяй пра вынікі сацыяльна–эканамічнага развіцця Маладзечна да дэпутатаў звярнуўся намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык.**

Прызнаная нездавальняючай работа радыёзавода "Спадарожнік", ЖБВ, СП "ХайБел", станказавода. Недастаткова папрацавалі па выкананні прагнозных паказчыкаў развіцця Адкрытае Акцыянернае Таварыства "Электрамодуль", "Маладзечналес", "Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў", фабрыка музычных інструментаў.

Прадпрыемствам і арганізацыям на сесіі зацверджаная бронь рабочых месцаў (360) для працаўладкавання гараджанаў у будучым годзе.

**14 дэпутатаў прагаласавалі за далейшую фінансавую падтрымку футбольнага клуба "Маладзечна".** Трое супраць і трое ўстрымаліся. Як паведамілa на сесіі загадчыца фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч**, за 4 месяцы (з красавіка па ліпень) на падтрымку футбольнага клуба выдаткавана 3 мільярды 877 мільёнаў рублёў.

*Заканчэнне на 2-й стар.*



У Маладзечне футбол шануюць.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Фабрыка тратуараў

*МАЛАДЗЕЧНА. Завод ЖБВ ТАА "Маладзечнажалезабетон" сваё летазлічэнне як арганізацыя вядзе з 1981 года. З цягам часу арганізацыю выкупілі ў дзяржавы і яна пачала працаваць самастойна. Нягодныя з такім кіруннікам спраў, будтрэст №23, у склад якога раней уваходзіла прадпрыемства, адваяваў права на валоданне прадпрыемствам. Але заробак плацілі невысокі, абсталяванне не абнаўлялася, людзі працавалі на план, а не на рэалізацыю.*

Пасля ўзнікнення ТАА "Маладзечнажалезабетон" дырэктар **Мікалай Івашкевіч** вызначыў асноўную задачу: не паўтараць віды прадукцыі, што ўжо існуюць, імкнуцца да найбольшай якасці тавару. У адпаведнасці з задачай, арганізацыя саступіла выпуск сілікатных блокаў суседняму ЖБВ, а сама ўзялася за актыўнае асваенне вытворчасці пліткі.

На сёння прадпрыемства выпускае 14 відаў бетонных і 9 відаў жалезабетонных вырабаў.

Арганізацыя некалькі разоў узнагароджвалася дыпломамі. Каб высветліць марозатрывалаcць пліткі польская фірма "Мітэль" на выстаўцы ў Беластоку ўпотай узяла ўзоры вырабаў на выпрабаванне – плітка вытрымала 250 цыклаў замарозкі і размарозкі (дзяржстандарт – 200 цыклаў).

Фарбавальнікі прадпрыемства выкарыстоўвае нямецкія і чэшскія: заключана дамова з чэшскай фірмай у Мінску "Вербекс", цэмент прывозяць з Ваўкавыска, Крычава, Касцюковічаў.

Сёння асноўнымі пакупнікамі з'яўляюцца прыватныя асобы. Вялікая колькасць вырабаў ідзе ў Маскву і Польшчу на рэстаўрацыю гістарычных сядзіб, шмат плошчаў ды вуліц Маладзечна, Мінска, Валожына, Смаргоні, Вілейкі, Ашмянаў, іншых гарадоў Беларусі выбрукавана вырабамі ТАА "Маладзечнажалезабетон".

За два гады самастойнага існавання прадпрыемства не толькі не страціла працоўныя сілы, але і павялічыла свой штат з 170 да 209 чалавек. Нягледзячы на цяжкія ўмовы работы, людзі працуюць тут ахвотна, бо ведаюць: колькі зробяць – столькі і атрымаюць. Сярэдні заробак складае каля 7,5 мільёна рублёў.

– Працуем у дзве змены. Работа цяжкая, адпачынак усяго 18 дзён, але ж заработак атрымліваем рэгулярна, няма прастояў на прадпрыемстве,– расказваюць лабаранткі **Міраіда Пазняк і Ганна Радкевіч**.

– Не так даўна набылі машыну для вытворчасці бардзюраў. Цяпер ідуць выпрабаванні,– гаворыць галоўны механік **Анатоль Пахарынскі.**

Дырэктар, дэпутат гарадского Савета, **Мікалай Івашкевіч** расказвае нам пра планы развіцця прадпрыемства:

– Мяркуем асвоіць не толькі вытворчасць, але і ўкладку пліткі. Ёсць магчымасць заключыць пагадненне на супрацоўніцтва з адпаведнымі прадпрыемствамі ў Літве, Аўстрыі, Італіі. Пачалі выпускаць пліты для перакрыцця даўжынёй 7,2 м. Раней такія пліты рабілі толькі ў Баранавічах. Будуем новую кацельню ў дапамогу нашаму паравозу. Радыя маладым кадрам, якія з задавальненнем ідуць да нас на работу.

*Злата ГУРЫНОВІЧ, студэнтка журфака БДУ.*



Прадукцыя завода карыстаецца попытам.



Андрэй і Анатоль Салагубы.



Электрыкі ГенадзьМалько, Алег Корсак, Валеры Міхейчык.

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

*СТАРЫ АЛЬБОМ*



*Работніца фабрыкі мастацкай керамікі Таіса Нямцэвіч уручае кветкі Юрыю Левітану. Радашковічы, 1973 год.*

ФОТА З АЛЬБОМА Т. НЯМЦЭВІЧ.

У 1973 годзе ў Радашковічах быў **Юрый Левітан**. Славутага дыктара запрасіў наведаць мястэчка **Якаў Шафір**, дырэктар фабрыкі мастацкай керамікі (цяпер Якаў Іосіфавіч жыве за акіянам). Сустрэча адбылася ў актавым зале прадпрыемства.

Успамінае работніца фабрыкі, цяпер акцыянернага таварыства «Белмастацкераміка» **Таіса Нямцэвіч**:

-Мне ўяўлялася, што ўладальнік такога магутнага голаса мусіць быць па меншай меры атлетам. На сцэне ж мы ўбачылі звычайнага чалавека сярэдняга росту. Нават у гутарцы з людзьмі голас не вылучаўся. Але калі дыктар падышоў да мікрафона, настроіўся, мы пачулі голас, які ведалі ўсе. Голас дыктара, за якога у часы Вялікай Айчыннай фашысты абяцалі вялікую ўзнагароду. Галасы іншых дыктараў можна было «падрабіць», даць паведамленне ў эфір. А голас Левітана яшчэ нікому не ўдалося скапіраваць.

***Надзея ЛІСАВА.***

*КУЛЬТУРА*

**РЭПЕРТУАР Мінскага абласнога драмтэатра. Кастрычнік 1998 года**
**г. Маладзечна, вул. Чкалава, 7 Тэл: гал. адміністратар 61732, каса 52417.**

| | | |
|---|---|---|
| | | ***Ранішнія спектаклі*** |
| **22** чацвер 10–00 | | **У. Арлоў** "Тата" (дарослая казка для дзяцей) |
| **23** пятніца 10–00 14–00 | | **Г. Булыка** "Чарадзейства ў краіне Оз" (казка–канцэрт) |
| **30** пятніца 10–00 | | **С. Казлоў** "Парася, якое спявае, альбо нельга нам без сябра" (музычная казка–жарт у 2–х дзеях) |
| **31** субота 14–00 | | **С. Кавалёў** "Драўляны рыцар" (мюзікл у 2–х чароўных дзеях) |
| | | ***Вячэрнія спектаклі*** |
| **3** субота 17–00; **4** нядзеля 17–00; **14** серада 19–00 | Прэм'ера | **Танкрэд Дорст** "Гер Паўль" (трагіфарс у 2–х дзеях) |
| **7** серада 19–00; **28** серада 19–00 | | **С. Кавалёў** "Саламея і яе амараты" (споведзь жанчыны (трагікамедыя ў 2–х дзеях без антракта) |
| **8** чацвер 19–00 | | **У. Рудаў** "Камедыя" (камедыя ў 2–х дзеях паводле твораў К. Маршэўскага і Ф. Аляхновіча). |
| **9** пятніца 19–00 | | **Ж. П. Сартр** "Пры зачыненых дзвярах" (ірэальная драма ў 2–х дзеях) |
| **11** нядзеля 17–00 | | **У. Гібсан** "Двое на арэлях" (балада пра каханне ў 2–х дзеях) |
| **13** аўторак 19–00; **27** аўторак 19–00 | | **А. Астроўскі** "Апошняя ахвяра" (меладрама ў 2–х дзеях) |
| **16** пятніца 19–00 | | **С. Мрожак** "Караль" (драматычная клаўнада) |
| **18** нядзеля 17–00; **24** субота 17–00 | | **Р. Тама** "Восем закаханых жанчын" (сямейны дэтэктыў у 2–х дзеях) |
| **21** серада 19–00; **29** чацвер 19–00 | | **Ф. К. Кроц** "Без мяне мяне ажанілі" (сямейны дэтэктыў у 2–х дзеях) |

**Мастацкі кіраўнік тэатра – заслужаны дзеяч культуры РБ Мікалай Мацкевіч.**
***Каса працуе з 14 да 19 гадзін. Выхадны дзень – панядзелак.***
***Пачатак вячэрніх спектакляў у 19 гадзін, у суботу і нядзелю ў 17 гадзін.***

*ЖЫВЫ КУТОК*

# Абед "на халяву"

ВАЛОЖЫН. Актыўна нарыхтоўкай кармоў на зіму займаюцца не толькі вавёркі, але і егеры паляўнічай гаспадаркі. Ужо дастаткова назапашана буракоў, збожжа, збожжаадходаў, сена, бульбы, венікаў з лазы для бясплатных абедаў дзікоў, зайцоў, казуль, аленяў.

А ў Налібоцкай пушчы сёлета нарадзіліся 9 зубранят – самы "ўраджайны" год. Цяпер там жыве 37 зуброў.

***Ларыса КАРНЕЕВА, Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Лесаводы і пенсіянеры

АСТРАВЕЦ. У мясцовым лясгасе пра работнікаў, якія ідуць на пенсію, не забываюцца. Дапамагаюць, па магчымасці, чым могуць.

Кожны ляснік ці лесаруб мае ў карыстанні адзін гектар зямлі, а яшчэ на дзень работнікаў лесу атрымлівае прэмію ў памеры адной "мінімалкі". Так было і сёлета.

Шкада, праўда, што мінімальную зарплату павысілі не ў верасні.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Хтосьці любіць пакурыць?

АСТРАВЕЦ. Аптова–рознічная база, якая знаходзіцца ў лясным масіве непадалёку ад станцыі Гудагай, апошнімі гадамі стала прываблівацъ людзей, нячыстых на руку. У мінулым годзе з яе тэрыторыі былі выкрадзеныя восем аўтамабіляў са спіртам. І вось новае злачынства.

Напэўна, злодзеі ўжо напіліся і цяпер вырашылі пакурыць, таму з ахоўваемых складоў зніклі цыгарэты "L&M" і "West". Яны былі канфіскаваныя на адным з пастоў Ашмянскай мытні і ацэненыя ў 800 мільёнаў рублёў. Апетыт у злачынцаў, як відаць, някепскі. Вядзецца следства.

***Алесь СВІРЧУКОЎ.***

*СЕСІЯ*

# Мільярд...

***Пачатак на 1-й стар.***

З чаго складаецца лічба? Кожны з 22-х футбалістаў і з дзесятак персаналу (трэнер, бухгалтар, іншыя) атрымлівалі штомесяц зарплату каля 22 мільёнаў кожны. 800 мільёнаў пайшло на сталаванне спартсменаў. Выдаткі на форму, выезды на трэніроўкі і г. д.

Дэпутаты прагаласавалі за падтрымку футбола і каля 2 гадзін шукалі шляхі пагашэння запазычанасцяў ФК у 2 мільярды 35 мільёнаў рублёў. Пакуль пытанне не вырашана.

Каманда ў турнірнай табліцы чэмпіянату краіны трывала займае апошняе месца.

***Аддзел інфармацыі.***

# Навука цёткі Ганны

***МАЛАДЗЕЧНА. Усё пачалося 8 год таму з ідэі знаёмства маленькіх хлапчукоў і дзяўчынак з культурай Беларусі, абрадамі і традыцыямі народа. На сёння ідэя перарасла ў Цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў, што на вуліцы Чайкоўскага, 16. Былая эксперыментальная ўстанова цяпер дзеліцца з іншымі досведам работы.***

Правесці ўрок пад назвай "Беларусь – мая Радзіма" прыйшла цётка Ганна, а дапамог ёй Вандроўнік. Ён даставаў з сумкі розныя рэчы, расказваў іх гісторыю, згадваў мясціны, дзе пабываў.

На самой справе дзеці даўно пазналі сваіх настаўніц, пераапранутых у народныя касцюмы, але гульню падтрымалі. Такія ўрокі для іх не дзіва, бо ўнесеныя ў школьны расклад як дадатковыя і праходзяць штотыдзень.

Для школьнікаў 1–4 беларускамоўных класаў у Цэнтры распрацавалі праграму эстэтычнага цыклу. Падчас гульняў, тэатралізаваных пастановак, у якіх задзейнічаныя самі дзеткі, яны знаёмяцца з беларускімі абрадамі і фальклорам. Часта ва ўжо гатовы сцэнарый даводзіцца ўпісваць новых персанажаў, каб не пакрыўдзіць нікога з маленькіх прэтэндэнтаў на ролі – усе жадаюць удзельнічаць. Хлопчыкі і дзяўчаткі саджаюць на падлозе бульбу, каб потым талакой яе сабраць, гукаюць вясну, сустракаюць Масленіцу, калядуюць, святкуюць Вялікдзень.

Загадчыца аддзела арганізацыйна–метадычнай работы **Марыя Полаз** жартуе, што з усіх абрадавых святаў без распрацаванага сцэнарыя засталося бадай што толькі вяселле.

Цэнтр эстэтычнага выхавання працуе не толькі з вучнямі пачатковых класаў. Ён прапануе сцэнарыі для школ і сярэднеспецыяльных вучэбных устаноў, арганізуе выстаўкі, агляды мастацкай самадзейнасці, сустрэчы падлеткавага КВЗ, мае некалькі шоў–праграм (прыкладам, "Зоркі Маладзечна").

Другая важная частка работы Цэнтра – гурткі і студыі, адкрытыя для ўсіх жадаючых дзяцей, падлеткаў. Сярод іх "Батлейка", "Беларуская хатка", студыя абрадавага фальклору, літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", харэаграфічная студыя, студыя выяўленчага мастацтва, школа сямейнага выхавання для дзяўчынак.

Пачынае па суботах працаваць клуб выхаднога дня "Гарэзы". Ён прапануе школьнікам відэафільмы і разнастайныя забаўляльныя праграмы, накшталт "Каханне з першага погляду", "Поля цудаў", "Караоке", іншых.

Загадчыца аддзела масавых мерапрыемстваў **Святлана Мілер**, чакае новых наведвальнікаў Цэнтра і хвалюецца: спадабаецца? прыйдуць зноў?

Чаму ж не? Тут умеюць працаваць з дзецьмі.

Калі пакідала Цэнтр эстэтычнага выхавання, хлопчыкі з каманды "Званочкі" і дзяўчынкі з "Клубнічак" засяроджана адгадвалі загадкі. Вырашыць, хто т... "паласаты ляжыць каля плота", аказалася не так лёгка. Але ўрэшце, адхінуўшы кандыдатуры вожыка і зебры, дзеткі вынайшлі гарбуз. І ўсе дружна перайшлі ў наступны тур.

***Мілена АНУФРЫЁНАК, студэнтка журфака БДУ.***

*ЖЫЦЦЁ НАШАЕ*

# Нараджаць не забароніш



*Галоўны педыятр Маладзечанскага раёна Міхаіл Радзюкевіч.*

ФОТА АЎТАРА.

***МАЛАДЗЕЧНА. У мнагадзетных сацыяльна няўдалых сем'ях раёна выхоўваецца 230 дзяцей. На іх выдаткоўваецца штомесяц 69 мільёнаў рублёў (па 300 тысяч на кожнага). У год – каля мільярда. У школах–інтэрнатах, спецшколах з Маладзечаншчыны знаходзіцца 102 дзіцяці: сіроты, бацькі якіх пазбаўленыя сваіх правоў. На іх за год расходваецца, з улікам аздараўлення, 15 мільярдаў. Дзеці з няўдалых сем'яў, у большасці сваёй, недаразвітыя, з рознымі паталогіямі, хранічнымі захворваннямі. Чым губляць мільярды (а колькі па рэспубліцы?), ці не гуманней было б прыняць закон аб стэрылізацыі некаторых "мамаш"?***

– Юрыдычна спыніць бессэнсоўнае нараджэнне дзяцей немагчыма, – гаворыць галоўны педыятр раёна **Міхаіл Радзюкевіч.** – У нас ёсць кабінет планавання сям'і, які, па магчымасці, кантралюе нараджальнасць. Бясплатна аказваем паслугі па кансультацыі кантрацэпцыі, правядзенні мініабортаў. Аднак ідуць па дапамогу пераважна людзі свядомыя.

***– Жабрацтва і загана – рысы сацыяльна няўдалых сем'яў?***

– У асноўным. Даводзіцца сустракацца з рознымі выпадкамі. Адна жанчына мела пяцёра дзяцей ад чатырох мужчын. Нараджала шостага, калі моцна хварэла на цукровы дыябет. У рэанімацыі памерла. Немаўля таксама праз месяц загінула ад хваробы. Што тычыцца вашывасці ў такіх сем'ях, дык гэта, на жаль, норма. Дарэчы, гэтыя дзеці ў фізічных адносінах больш здаровыя. Могуць да зімы басанож хадзіць.

***– Вёска даўно спілася. Заработкі ў гаспадарках малыя. Адзінае выйсце – нараджаць і жыць за дзіцячыя грошы?***

– З гэтым я поўнасцю не згодны. За такія грошы не пражывеш. Хаця ёсць жанчыны–алкаголікі, якія і ў 50 нараджаюць. Не клапоцяцца, якое яно будзе – дзіцё. Псіхалогія такая: дзяржава выхавае, людзі дапамогуць. Па медыцынскіх паказчыках, самы аптымальны дзетанараджальны ўзрост ад 18 да 32 гадоў. Найменшая рызыка, што атрымае паталогію. І аптымальны ўзрост, каб паставіць дзіця на ногі.

***– Колькі ў раёне на ўліку сацыяльна няўдалых мнагадзетных сем'яў?***

– 67. І 11 з іх жывуць у вёсцы Гарадок.

***– З улікам пастаяннага зніжэння агульнага жыццёвага ўзроўню можна прадбачыць далейшы рост падобных сем'яў. Павялічыцца колькасць недаразвітых дзяцей. Гэта значыць, будзе значны іх прыток у крымінальнае асяроддзе. І нам яшчэ на п'яніц, дэбілаў працуй (падаткі плацім усе)!? Дык вы, Міхаіл Аляксандравіч, як спецыяліст, чалавек, за распрацоўку і далейшае прыняцце закона аб стэрылізацыі?***

–Вымушаная стэрылізацыя - парушэнне правоў чалавека і ніхто на такое не пойдзе. Ёсць іншыя падыходы да вырашэння гэтай праблемы.

***Васіль САВІЦКІ.***

*КНІГАРНЯ*

# Навінка!

**Каталог пазацэнзурнага перыядычнага друку Беларусі: 1971–1990**

Укладальнікі: Юрась Лаўрык і Ларыса Андросік; Рэдактар: Уладзімір Арлоў. – Мінск, 1998. – (Архіў Найноўшае Гісторыі).

Каталог маніфестуе пра існаванне традыцыі вольнага слова ў Беларусі. З пазіцыяў сённяшняга дня мы ўзгадваем не толькі ліберальны перыяд першай паловы 90–х – пасля аднаўлення беларускае незалежнасці, але і 60–я, 70–я, 80–я, калі прыхільнікам вольнага слова пагражалі сапраўдныя рэпрэсіі.

Каб атрымаць кнігу, трэба 112.000 рублёў плюс 16.000 за паштовую перасылку пералічыць на рахунак:

БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант" філія АКБ "Поиск" Мінск, код 987.

**Сергей Дубавец. Русская книга. – Минск, 1998.**

У гэтай кнізе аўтар дае свае адказы на пытанні, якія ставіць беларуская рэчаіснасць. Кніга наўмысна скіраваная да расійскага і рускамоўнага чытача.

Каб атрымаць кнігу, трэба 86.000 рублёў плюс 16.000 за паштовую перасылку пералічыць на рахунак:

БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант" філія АКБ "Поиск" Мінск, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сектары "Для пісьмовага паведамлення" указаць назву кнігі і ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсць, тэлефон.

Звяртацца можна праз пошту: а/с 5 Мінск 220085.

ПРЫВІТАННЕ, ШВЕЦЫЯ!

# Хэй, Ліндэсберг!

***Дзве групы беларускіх журналістаў прынялі ўдзел у семінары «Сучасная рэгіянальная журналістыка», арганізаваным Праграмай развіцця ААН і Шведскім інстытутам павышэння кваліфікацыі журналістаў. Часткай праграмы быў тыднёвы побыт у шведскіх газетах. Мелі магчымасць пазнаёміцца з работай калег у гарадах Ліндэсбергу і Орэбру і два журналісты з Маладзечна- аўтар гэтых радкоў і супрацоўніца «Маладзечанскай газеты» Анжаліка Крупянькова. Пасля Швецыі засталіся дарожныя нататкі і стос фотакартак.***



Ліндэсберг. Від з акна гасцініцы.



Возера ў Ліндэсбергу.



Пляц ля гатэля.

ФОТА АЎТАРА.

Уласна, знаёмства са Швецыяй пачалося з невялічкага гарадка Ліндэсберг, у цэнтральнай частцы краіны (тры гадзіны аўтобусам ад міжнароднага аэрапорта Арланда пад Стакгольмам). Беларускіх журналістаў пасялілі ў абавязковым для кожнага шведскага горада гарадскім гатэлі, які на шэсць дзён быў для нас і домам, і цэнтрам Ліндэсберга і Швецыі. Гарадскі гатэль- атрыбут кожнага горада гэтай краіны, нават такога невялічкага, як Ліндэсберг, у якім жыве 10 тысяч жыхароў. Па нашых мерках, мястэчка, як Радашковічы або Івянец. І тым не менш гасцініца не пуставала. Тут на зыходзе турыстычнага сезону былі звычайныя турысты і дзелавыя людзі. Нават такі невялікі гарадок можа быць прыцягальным. Для адных сваёй і наваколля прыгажосцю, для іншых- вытворчасцю (паблізу Ліндэсберга працуе завод па выпуску задніх мастоў да грузавікоў «Вольва»).

-Хэй!- такім словам вітаюць шведы адзін аднаго. Заўсёды з усмешкай і аптымізмам. Нягледзячы на шматлікія праблемы ў іхнім жыцці. Праўда любы беларус можа направіць шведа: вам бы нашыя праблемы.

Краіна не ведае вайны амаль два стагоддзі. Маючы тэрыторыю ў два разы большую за Беларусь і амаль такое самае насельніцтва, шведы, пачынаючы з 1932 года, калі да ўлады прыйшлі сацыял-дэмакраты, будуюць грамадства, якое мае ў сваёй аснове капіталістычны спосаб гаспадарання, і пабудавалі стройную і трывалую сістэму сацыяльнай абароненасці. Па-просту- сацыялізм. Што дазволіла развівацца і краіне ў цэлым, і такім гарадкам як Ліндэсберг, дзе кожны кожнага ведае ў твар і вітаецца кароткім і цёплым «Хэй!».

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

*Працяг будзе.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 16.09 | 23.09 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 144 | **165** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 306 | **307** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 104 | **104,9** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 65-80 | **74,5** |
| Рыс | 1 кг | 58 | **73** |
| Цукар | 1 кг | - | - |
| Грэчка | 1 кг | 59 | **83** |
| Алей | 1 л | 130 | **148** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 21-29 | **26,9** |
| Маянэз | 250 г | 20 | **38** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 120 | **140** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 40 | **50** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 45 | **48** |
| Лімоны | 1кг | - | **180** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 36 | **51** |
| Масла | 1 кг | 110 | **120** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **40** |
| Малако | 1,5 л | 14 | **10** |
| Бульба | 1 кг | 8 | **13** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 40 | **38** |

*Падрыхтавала Мілена АНУФРЫЁНАК.*

# Камароўскі рынак: золата

Апошнім часам тут актывізаваліся гандляры золатам. У асартыменце кольцы, пярсцёнкі з брыльянтамі, завушніцы і ланцужкі.

Гэтая прадукцыя карыстаецца ў спажыўца поспехам як дадатковая абарона ад інфляцыі. Але трэба памятаць, што пры куплі з рук неабходна ўважліва разгледзець пробу. На вырабах часоў СССР – гэта пяцікутная зорка, на расійскіх – жанчына ў какошніку.

На жаль, не ведаю, якая проба на беларускіх залатых упрыгожваннях.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

# На паліцах у крамах

***ВІЛЕЙКА. З паліц дзяржаўных магазінаў зніклі алей, цукар, грэчка, рыс. Аднак гараджане не выглядаюць разгубленымі.***

Хутчэй за ўсё, прадукты назапасілі на зіму. Калі ўзяць той жа цукар – за леташняе першае паўгоддзе праз дзяржгандаль прададзена 71,5 тон, за адпаведны сёлетні перыяд 268,7 тон. Рост спажывання ідзе амаль па ўсіх асноўных прадуктах харчавання. У верасні попыт на прадукты яшчэ больш павялічыўся. Па словах намесніка старшыні гарвыканкома **Васіля Валадкевіча**, улада мае поўную інфармацыю аб наяўнасці тавараў, асабліва прадуктаў, у магазінах і прымае меры па іх пастаўцы.

У аддзеле гандлю гарвыканкома сітуацыю растлумачылі. Па малочных прадуктах, хлебе пытанняў не ўзнікае. Па мясе ёсць. Маладзечанскі масакамбінат не задавальняе патрэбы горада. Год таму мяса завозілі з Ашмянскага мясакамбіната – праблемаў не было. На жаль, гэта іншая вобласць са сваімі фондамі. Усё гэта перашкаджае супрацоўніцтву. А пакуль дзяржаўнае гандлёвае вытворчае прадпрыемства "Крыніца" распачало вытворчасць паўфабрыкатаў: галубцоў, пельменяў, фаршу.

У хуткім часе значна ўзрасце кошт мукі. Хлебабулачныя вырабы датаваныя, прадаюцца ніжэй за сабекошт. Страты ж трэба неяк кампенсаваць. Цяжэй у Вілейцы будзе з прывазным таварам. Ён найбольш залежыць ад курсу долара. Ужо сёння дзяржгандлю прапануюць алей па 250 тысяч за літр (без гандлёвых надбавак). І ўсё адно прывазны тавар будзе закупляцца, больш для асартыменту, малымі партыямі. А наогул, цэны на прадукты будуць прыблізна як у некаторых магазінах Мінска: алей – 256 тысяч рублёў, рыс – 86, грэчка – 78, мука – 44.

У гэтым месяцы гарвыканком прыняў рашэнне аб мерах па абароне спажывецкага рынку. Акрамя іншых пунктаў дакумента ўвага надаецца стварэнню рэзерву жывёльнага масла. А кіраўнікам хлебазавода, гармалзавода загадваецца пад асабістую адказнасць забяспечваць бесперабойную пастаўку ў гандаль сваёй прадукцыі.

Асноўнай праблемай у Вілейцы застанецца набыццё цукру. Да таго часу, пакуль з новага ўраджаю не наробяць прадукту. На рынку ён прадаецца без усякай чаргі па 50 тысяч за кілаграм. І кошт яго паўзе ўверх.

У прамтаварных магазінах сітуацыя таксама абвастрылася. Дырэктар ДМП "Утульнасць" **Алімпіяда Якуціна** гаворыць, што мэблю і дываны гараджане раскупілі. Завезці новую партыю тавару пакуль немагчыма. Напрыклад, на шафу вытворцы ўзнялі адпускную цану на 30%. А ўзяць тавар дзяржпрадпрыемству можна толькі пры 2–працэнтным пад'ёме. Вось Мінская фабрыка мяккай мэблі выйсце знайшла. Камітэт цэнаў пры Міністэрстве эканомікі даў прадпрыемству дазвол фарміраваць адпускную цану з улікам рэальных затрат на выпуск сваёй прадукцыі. Такіх дазволаў адзінкі.

Дырэктар універмага "Меркурый" **Тарэза Казановіч** гаворыць, што сталічная "Мілавіца" тавар наогул не адпускае. Сваіх работнікаў адправіла ў адпачынак. А новая партыя абутку сумесных прадпрыемстваў "Сівельга", "Легрант" паступіла з новай цаной – на 40% вышэй. Праўда, гэта ўжо новыя ўзоры абутку.

А вось у секцыі дзіцячага адзення ўніверсама "Вілія" паведамілі, што нейкага вялікага попыту на дзіцячыя тавары не адчулі. Праўда, хутка раскупілі куртачкі на ўцяпляльніку. Дык гэта зразумела – сезон, восень.

*Васіль САВІЦКІ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

# Перагрузка ў школах

■ За мінулы тыдзень эпідэміялагічная сітуацыя застаецца стабільнай, зарэгістравана 32 выпадкі захворванняў ВКІ, з іх 24 выпадкі ў горадзе, сярод якіх 6 дашкольнікаў, 6 школьнікаў і 12 дарослых, у раёне – 8 выпадкаў.

■ Таксама зарэгістравана 11 выпадкаў захворванняў на педыкулёз, 4 на каросту, 5 на мікраспарыю.

■ Для разгляду на пасяджэнні Маладзечанскага гарвыканкома падрыхтаваная даведка аб стане інфекцыйнай захворваемасці і выкананні комплексных праграм па іх прафілактыцы. Адзначана, што за 8 месяцаў бягучага года сярод гарадскога насельніцтва зарэгістравана 88 выпадкаў захворвання дызентэрыяй, што ў параўнанні з такім самым перыядам мінулага года адзначаны рост на 17,8%, 37 выпадкаў захворвання сальманелёзам – рост 8,8%. Захворваемасць вірусным гепатытам "А" знізілася ў 1,5 раза, туберкулёзам на 4 выпадкі (20 супраць 24 у 1997 г.), у 1,3 раза знізілася захворваемасць сіфілісам (170 супраць 214 у 1997 г.).

■ Адзначаны шэраг станоўчых фактаў, што дазваляе кантраляваць сітуацыю па захворваемасці. Аднак цэлы шэраг нявырашаных пытанняў не дазваляе стабілізаваць эпідэміялагічную сітуацыю;

– падвальныя памяшканні жылых дамоў часта затапляюцца сцёкавымі водамі (вул. Драздовіча, 1, 3, 5; Ларына, 1, 6; вул. Б. Хмяльніцкага, 3 "Б" і інш.), іх апрацоўка і дэзінфекцыя своечасова не праводзяцца;

– не арганізавана належным чынам абследаванне на туберкулёз асоб, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі;

– рэалізацыя прадуктаў харчавання на "стыхійных рынках", пры адсутнасці санітарных умоў;

– парушэнне тэрмінаў рэалізацыі і транспартавання харчовых прадуктаў;

– незахаванне элементарных правілаў асабістай гігіены.

■ У шэрагу школ горада (СШ №№ 1, 5, 7, 8) адзначаецца перагрузка, што не дазваляе належным чынам забяспечыць навучальна–выхаваўчы працэс і захаванне санітарна–гігіенічных патрабаванняў.

■ За тыдзень у лабараторыях цэнтра даследавана 33 пробы харчовых прадуктаў з харчовых прадпрыемстваў, усе адпавядалі НТД, 16 проб водаправоднай вады, 10 проб вады артсвідравін, з якіх 6 – не ў поўнай меры адпавядалі патрабаванням. У радыелагічнай лабараторыі даследавана 25 проб, з іх 3 пробы сушаных грыбоў з перавышэннямі РДУ–96.

■ За грубыя парушэнні санітарных правілаў аштрафаваныя прадпрымальнікі **Н. Мікулевіч і В. Купрацэвіч.**

■ Паступіў шэраг скаргаў на якасць набытых прадуктаў. Аднак большасць з іх не пацвердзілася або адбыліся ад няправільнага захоўвання ў дамашніх умовах. Звернутая ўвага пакупнікоў на неабходнасць патрабаваць у прадаўцоў дакументы, якія пацвярджаюць якасць набываемых прадуктаў. Свае прэтэнзіі запісваць у кнігу скаргаў і прапаноў.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач Маладзечанскага РЦГіЭ.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Еўрапейская закуска

***ВІЛЕЙКА. У апошні час пачаў заўважаць шмат галубоў з пакалечанымі лапкамі. Часта на іх можна заўважыць абрыўкі вяроўкі ці дроту. Мяне зацікавіла гэта. Безумоўна, нехта ловіць галубоў. Але навошта? Пачаў пытацца ў сваіх сяброў і знаёмых. Высветлілася наступнае.***

Пры цяперашнім катастрафічным падзенні жыццёвага ўзроўню добры кавалак мяса ў магазіне не сустрэнеш, а на рынку трэба аддаць немалыя грошы, якія не ва ўсіх ёсць. За танным мясам заўсёды збіраецца чарга, а не ва ўсіх ёсць час і нервы, каб стаяць у гэтых выбухованебяспечных месцах збору людзей (такая чарга ў магазіне №25 знесла вялізны фікус, які вытрымаў не адну кілбасную асаду ў часы застою).

А калі няма ні грошай, ні часу, то галубінае мяса – не самае горшае, што можа апынуцца на абедзенным стале. У ходзе майго невялікага даследавання нават давялося пакаштаваць суп з галуба. Запраўлены кубікам Gallina Blanca, ён зусім не адрозніваўся ад курынага. У многіх еўрапейскіх краінах галубінае мяса (мясных парод) падаюць у рэстаранах.

Яшчэ ўдалося высветліць, што, акрамя еўрапейскіх закусак, на сталах некаторых зусім непераборлівых можна сустрэць страву карэйскай кухні з сабачаціны. Адна такая "карэйская" сям'я жыве ў прыгарадзе Вілейкі (Стаўкі), яшчэ аднаго "карэйца" можна сустрэць на ўскраінах горада ў пошуках мяса.

У іх нават ёсць свой фірмовы рэцэпт пад гучнай назвай "сука мачоная". Гэта значыць, што мяса сабакі трэба некалькі дзён патрымаць у воцаце – тады пах сабачаціны знікае. Кажуць, што пад гарэлку сабачаціну не адрозніць ад ялавічыны.

Але, "на жаль", гэтую страву пакаштаваць не ўдалося.

Напрыканцы парада для аматараў бясплатных мясных далікатэсаў. У старых панскіх парках можна сустрэць вінаграднага слімака (ракавіна вышынёй 50, шырынёй каля 45 міліметраў, жоўта–карычневая, з цёмнымі палосамі) – яна прыдатная да ежы. Пасаліць, паперчыць і падсмажыць на алеі.

Смачна есці!

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СІТУАЦЫЯ

# Кожнаму сваё?

***ВІЛЕЙКА. Жыхары дома 40 па вуліцы Талстога занепакоеныя паводзінамі адміністрацыі магазіна №26: разгрузачная рампа магазіна выходзіць у двор гэтага дома.***

Намеснік дырэктара ўзяў на сябе абавязкі інспектара ДАІ. Ён забараняе жыхарам–аўтааматарам спыняцца на стаянцы, размешчанай каля 7–8 пад'ездаў дома нават для разгрузкі садавіны і агародніны, якую цяпер возяць з агародаў. А інакш да пад'ездаў ніяк не дабрацца.

Дырэктар магазіна сцвярджае, што будзе знесены гараж, які належыць інваліду з 8 пад'езда, арэлі з пясочніцай, дзе заўсёды гуляюць дзеці не толькі з дома №40. Мяркуецца спілаваць некалькі бяроз, якія сваімі рукамі садзілі жыхары дома. Уся гэтая пляцоўка будзе заасфальтаваная і паслужыць для больш лёгкага пад'езду машын да магазіна.

Людзі разумеюць неабходнасць для жыхароў мікрараёна магазіна, а таксама пляцоўкі для разгрузкі. Але і дзецям неабходная пляцоўка з арэлямі, інваліду – гараж, а людзям – зялёныя дрэвы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

